Cena 60 gr

NIWA
Tygodnik Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Polsce

# Ніва

Цана 60 гр

Тыднёвік
Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы

№ 33 (129) БЕЛАСТОК, 17 ЖНІЎНЯ 1958 года ГОД III

## БАЦЬКІ, пасылайце дзяцей у беларускія школы!

Беларускае грамадска - культурнае таварыства і рэдакцыя «Нівы» сваім галоўным заданнем лічаць развіццё асветы сярод беларускага насельніцтва ў Польшчы. Справы звязаныя з кваліфікацыйным узроўнем настаўнікаў, развіццём беларускіх школ і матэрыяльным іх забеспячэннем з'яўляюцца асноўным у дзейнасці кожнага беларуса. Неабходна клапаціцца аб тым, каб нашы беларускія дзеці мелі магчымасць вучыцца ў школе на роднай мове. Правільна зрабілі сяляне вёскі Арэхавічы, якія самі выступілі да асветных устаноў з просьбай адкрыць у іх вёсцы беларускую школу. Беларуская школа ў Арэхавічах распачне працу ўжо 1-га верасня г. г.

Нажаль не ўсе разумеюць і даацэньваюць значэнне вучобы ў роднай мове, як сяляне з Арэхавіч.

Напрыклад у Гайнаўцы, у беларускай пачатковай школе, ёсць яшчэ шмат вольных месц, аднак бацькі чамусьці не запісваюць сваіх дзяцей у гэтую школу. Сяляне з беларускай вёскі Аўгустова (Бельскі павет) зракліся беларускай школы ў сваёй вёсцы, лічачы, што потым дзецям цяжка будзе паступіць на далейшую вучобу.

Ці гэта правільна? Не. Няхай доказам будуць беларускія ліцэі ў Бельску і Гайнаўцы, выпускнікі якіх амаль усе паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Польшчы. З Бельскага ліцэя вышла ўжо 12 лекараў; звыш 20 магістраў фармакалогіі, біялогіі, юрыдычных навук і г. д.; 41 інжынераў, звыш 100 настаўнікаў.

І беларуская мова гэтым выпускнікам зусім не перашкаджала ў навуцы, а наадварот — дапамагала. Ведаючы беларускую мову, яны мелі магчымасць карыстацца багатымі матэрыяламі Акадэміі навук Беларускай ССР. А ўсё гэта мела вялікі ўплыў на павышэнне іх навуковага ўзроўню.

Бацькі, пасылайце сваіх дзяцей у беларускія школы! Яшчэ да канца жніўня запісы прымаюцца.

## 15 гадавіна паўстання ў беластоцкім гета

15 год таму, 16 жніўня 1943 года насельніцтва Беласточчыны і ўсёй краіны было да глыбін душы парушана звесткамі аб паўстанні яўрэйскага насельніцтва ў беластоцкім гета.

Раніцай, 16 жніўня 1943 года, да зубоў узброеныя фашысты, пачалі ліквідаваць гета. Аднак яўрэйскае насельніцтва пад кіраўніцтвам падпольнай арганізацыі руху супраціўлення, на чале з камуністкай Фані Машковіч узняло паўстанне. Амаль кожны дом, кожная фабрыка ператварыліся ў крэпасць.

«Калі мы не абаронім свайго жыцця, дык абаронім свой гонар» — гаварылася да насельніцтва ў адозве штаба абароны. І гераічныя змагары біліся да апошняга тхнення.

Яўрэйскія героі, якім удалося прарвацца да партызанскіх атрадаў, змагаліся разам з палякамі і беларусамі супраць фашысцкіх захопнікаў. Частка іх утварыла яўрэйскі партызанскі атрад «Наперад», які дзейнічаў у лясах Беласточчыны. Прысуджаным на немінучую смерць яўрэйскім змагарам з дапамогай прышлі польскія і беларускія антыфашысцкія арганізацыі.

Нюра Чарвякоўская, Мікола Бакунін, Броня Зімнох, А. Багнюк — беларускія антыфашысты, якія шлі з дзейнай дапамогай яўрэйскім таварышам, здабывалі ім зброю і памагалі ўцячы з гета ў партызанскія атрады.

Да у гераічнага паўстання яўрэйскіх змагароў шырока адзначае грамадскасць Беласточчыны. 7 жніўня г. г. у Клубе ТПП-Р з дакладам аб паўстанні ў беластоцкім гета выступіў праф. Марк. 16 жніўня ў месцах баёў адслонены памятныя дошкі.

## Распачаў працу Камітэт пабудовы Дома—помніка К. Каліноўскаму

9 жніўня г. г. адбылося чарговае пасяджэнне грамадскага Камітэта пабудовы помніка К. Каліноўскаму. На пасяджэнні Камітэт пастанавіў пабудаваць у Беластоку Дом-помнік К. Каліноўскаму. Адначасова паклікаў да працы дзве камісіі: камісію па справах прапаганды і фінансавую камісію.

Добраахвотныя складчыны ўплачваць на Конто Камітэта РКО № 12-9-315 у Беластоку.

## Амерыканцы ў Ліване



Імперыялісты ў далейшым пасылаюць свае войскі ў суседнія з Іракам краіны — Ліван і Іярданію. Для гэтага выкарыстоўваюцца амерыканскія ваенныя базы і базы НАТО.

На здымку амерыканскія войскі ў Франкфурце — на — Майне (Зах. Германія) рыхтуюцца да пасадкі ў самалёты.



Гавораць: «на Кіпр», а вязуць у Іярданію... — англійскія салдаты 19 брыгады, якіх пасылаюць «на востраў Кіпр», а на справе — супраць арабскіх краін.



...а вось доказ: англійскія парашутысты на амманскім аэрадроме ў Іярданіі.

*

Амерыканцы з Франкфурта — на — Майне апынуліся ў Ліване.



**Выпускнікі!** Падаем да ведама выпускнікам сярэдніх школ, якія цікавяцца беларускай філалогіяй, што ў другой палове верасня г. г. праводзяцца ўступныя экзамены на аддзяленне беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце.

Неабходна здаваць наступныя экзамены: пісьмовы — па беларускай або рускай мове, вусны — па польскай і беларускай літаратуры.

Дакументы трэба пасылаць па адрасу: Uniwersytet Warszawski, Dziekanat Wydziału Filologicznego, Krakowskie Przedmieście 26/28.

